

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№134 (647) 9 ліпеня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**В официальной резиденции премьер-министра Японии Киити Миядзавы началась его встреча с прибывшим вчера в Токио президентом России Борисом Ельциным.**

❑

**Вчера Совет Безопасности ООН рассмотрел проект резолюции о направлении военных наблюдателей в Грузию.**

❑

**Забастовка 60 тысяч государственных служащих, требующих повышения зарплаты, проходила вчера в Израиле.**

❑

**Очередная сессия Приморского крайсовета приняла в четверг декларацию об учреждении на территории края государственно-территориального образования, имеющего конституционно-правовой статус республики в составе Российской Федерации.**

### Эльчибей в Баку не возвратится. Пока

**Президент Азербайджана Абульфаз Эльчибей, фактически отстраненный от власти, пока не намерен возвращаться в Баку.**

В распространенном вчера информационным центром Народного фронта Азербайджана письме А.Эльчибея из Нахичевани, куда он был вынужден уехать в конце июня по соображениям личной безопасности, отмечается, что факторы, которые вынудили его покинуть Баку, до сих пор не устранены.

### Дети и спички

**Столинский народный суд рассмотрел иск на взыскание алиментов, который подала ... пятнадцатилетняя мама.**

Брак был зарегистрирован в прошлом году, когда эта юная жительница одной из деревень ждала ребенка от сверстника. Три месяца спустя юный папа ретировался.

Кстати, подобный юный брак был в этих краях делом редким, но не единственным. Годом раньше местный ЗАГС уже регистрировал вынужденный брак 14-летней девочки.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Старый рубль экономику не испортит. Молдовы

**Принятое Центральным банком России решение об изъятии из оборота советских рублей образца 1961—1991 годов не распространяется на Молдову.**

Об этом заявил по национальному радио вице-президент Национального банка Молдовы Дмитрий Урсу. В то же время глава Национального банка сообщил, что новые российские рубли не будут ходить в Молдове.



### "Красное ложе" в политическом театре

**Первая политическая фракция появилась в Витебском областном Совете.**

О ее создании оповестили сессию представители Партии коммунистов Беларуси, членами которой являются 16 депутатов. Сессия приняла это заявление к сведению.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### "Нежные" руки отца

**В этот страшный день каменщик С. повздорил с коллегами, с которыми распил бутылку в деревне Вычулки под Брестом, и ушел куда-то с четырехлетним сынишкой.**

Труп мальчика со следами удушения обнаружили в строящемся особняке той же деревни. Причину убийства сына С. работникам милиции не назвал, объявив зверство "тайной, которую я унесу с собой в могилу".

**Виктор ВАСИЛЬЕВ.**

### Не убий!

**Суровую меру наказания — расстрел — определила коллегия по уголовным делам Витебского областного суда бывшему санитару морга 3-й городской больницы Борису Ковалеву.**

Этот приговор вынесен ему за умышленное, особо жестокое убийство Людмилы Становенко, жены своего друга, хирурга Александра Становенко. Последний как соучастник этого "заказного" преступления приговорен к 15 годам лишения свободы. Решение суда может быть обжаловано в вышестоящей инстанции.

**Сергей ПРАВОВЕРОВ.**

### Спорт-экспресс

**Обеими руками голосовал седьмого июля за свою команду во время футбольного матча на приз республики между витебским "КИМом" и спортсменами Молодечно мэр этого города, народный депутат Беларуси Геннадий Карпенко.**

Молодечненцы, вдохновленные, видимо, присутствием на стадионе "отца города", выиграли.

❑

**Блестящей победой Натальи Зверевой (Беларусь) и Джиджи Фернандес (США) завершился финал женского парного разряда на финишировавшем Уимблдонском турнире.**

Они победили другой интернациональный дуэт — Лариса Савченко-Нейланд (Латвия) — Яна Новотна (Чехия).

❑

**В финале чемпионата мира по фехтованию, проходившем в Эссене, встретятся серебряный и бронзовый призеры игр в Барселоне — сборные Германии и Румынии.**

В полуфинале немки выиграли у венгерок — 9:5, а румынки — у олимпийских чемпионок итальянок — 9:4.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

# На Бацькаўшчыну — з усіх кантынентаў!





Фота Сяргея БРУШКО.

*З прэс-канферэнцыі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ:**

## "Мы павінны трымацца прынцыпаў прававой дзяржавы"

**Сцяпан МАТАВІЛАЎ**

Адбылася прэс-канферэнцыя ў будынку Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, дзе ўрачыста адкрыўся Першы з'езд беларусаў свету, і праходзіла ў стылі "бліц": коратка пра галоўнае.

Адразу перадам ацэнку Старшыні Вярхоўнага Савета сусветнага форуму беларусаў, які праходзіць у Мінску, — гэта гістарычная падзея, дзеля якой плённа папрацаваў і ўрад, і шматлікія грамадскія арганізацыі.

Галоўны ж вынік сесіі, якая толькі што закончылася, — мноства прынятых законаў. Асабліва важкія ў сацыяльна-эканамічным плане — аб праве ўласнасці на зямлю і імянных (у гэтым адрозненне ад Расіі) прыватызацыйных чэкаў.

Наконт парламента: ён у рэспубліцы легітымны, і таму трэба менавіта ў гэтым законным рэчышчы рухацца далей. Што ж тычыцца тых "грахоў", якія стараліся яму прыпісаць многія дэпутаты, то, на думку С.Шушкевіча, пройдзе час і парламентарыі супакояцца. Але ж у тым, што "атакі" на яго будуць ісці і далей, ён упэўнены.

У адносінах з Расіяй лепшым стратэгічным курсам С.Шушкевіч лічыць такі: усе складаныя праблемы вырашаць на аснове двухбаковых пагадненняў.

Што ж тычыцца абвінавачванняў парламентарыяў у тым, што Старшыня Вярхоўнага Савета мала ездзіць у так званае блізкае замежжа, то быў адказ і на гэта: а чаго ездзіць? Дзеля самамэты? Ідзе планавая работа, эксперты працуюць і рыхтуюць паездкі дзелавыя, а не "абы пагаварыць".

Многіх цікавіла беларуская нацыянальная валюта — калі і як? Адказ С.Шушкевіча быў прыкладна такі: не трэба ўспрымаць грошы, бы простыя паперкі. Гэта складанейшая справа, урад над ёй працуе. І калі ісці на такі крок, то важна не зганьбаваць сябе некампетэнтнасцю. Таму ў рублёвай зоне Беларусь будзе да той пары, пакуль можна і выгадна, не трэба штучна "штурхаць" гэты працэс.

Ці будзе восенню рэферэндум? Цяжка сказаць, але С.Шушкевіч мае намер у патрэбны час унесці некаторыя свае ініцыятывы і па ім, і па варыянтах прыняцця Канстытуцыі.

Не збіраецца С.Шушкевіч і да апошняга трымацца за сваё сённяшняе крэсла. І калі знойдзецца хто дастойнейшы — калі ласка! Але ж і "ўбіваць клін" паміж сабой і прэтэндэнтамі, асабліва якіх С.Шушкевіч паважае, ён не дазволіць, як бы гэтага некаторым у парламенце не хацелася.

У планавым парадку ідзе і падрыхтоўка да візіту ў ЗША.

Наконт таго, ці можа быць на Беларусі прэзідэнт з замежжа адказ быў такі: усё залежыць ад закона, які будзе па гэтаму пытанню прыняты.

"Нам усім зараз патрэбна вытрымка...", — гэтыя словы, на мой погляд, былі самымі галоўнымі са сказаных С.Шушкевічам. Бо калі ёсць на плячах галава, то яна не павінна "кружыцца" ад розных палітычных віражоў. Справа даражэй.

*I з'езд беларусаў усяго свету*

## Будзем разам!

Дэвізам Першага з'езда беларусаў свету — сапраўды гістарычная падзея ў жыцці нашай суверэннай рэспублікі — сталі словы класіка: "На сход, на ўсенародны сход!" Ён упрыгожыў франтон Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі, дзе раніцай 8 ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыццё форуму.

Яго эмблема — вобраз Еўфрасінні Полацкай — на сцэне тэатра, на значках, якія атрымалі каля тысячы дэлегатаў з далёкага і блізкага замежжа. У зале шмат гасцей, прадстаўнікоў розных партый і грамадскіх арганізацый, рэлігійных дзеячаў, замежных і беларускіх журналістаў. У холах народныя майстры разгарнулі сапраўдны кірмаш вырабаў з саломкі, гліны, дрэва, вышыўкі і чаканкі. Выдавецтвы Беларусі прапанавалі самую новую прадукцыю, у тым ліку работы беларускай эміграцыі, выдадзеныя спецыяльна да з'езда. Дзяржаўныя структуры шырока прадстаўлены дэпутацкім і міністэрскім корпусам.

— Будаваць новую беларускую дзяржаву можна толькі ўсім разам — і тым, хто жыве на сваёй беларускай зямлі, і тым, хто далёка, але чыё сэрца баліць несціханым болем, імя якому — Беларусь. Такімі словамі адкрыў з'езд адзін з сустаршынь аргкамітэта, пісьменнік Васіль Быкаў.

Апладысментамі і воклічамі "Жыве Беларусь!" сустрэла зала паяўленне на трыбуне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча. Ён, у прыватнасці, сказаў:

— Першы раз за многія гады без прымусу сабраліся беларусы разам, і ніхто не перашкаджаў ім у гэтым. Ці думалі мы калі-небудзь, што дажывём да такой гістарычнай падзеі? Я не спадзяваўся, што гэта будзе ў лёсе толькі маіх дзяцей ці ўнукаў. Але тое, што менавіта нам давялося ўдзельнічаць у гэтым форуме, — ёсць павучанне гісторыі: жыццё можа быць лепшым, чым мы разлічваем.

Далей спікер парламента адзначыў, што тысячы беларусаў, тых, хто лічыць Беларусь сваёй айчынай не па этнічнай, а па духоўнай прыкмеце, іх нашчадкі аддалі свой талент і нават жыццё дзеля таго, каб беларусы сабраліся сёння разам. Гісторыя дала шанц, які ніхто не мае права згубіць: узяць усё лепшае, што было ў беларускага народа, і пабудаваць беларускую дзяржаву, якая зойме дастойнае месца ў сусветнай супольнасці. І хоць працэс перабудовы таталітарнай дзяржавы ў дэмакратычную надзвычай складаны, ён верыць, што ўзвесці яе можна, бо верыць у свой народ. Трэба толькі мабілізаваць увесь яе творчы і інтэлектуальны патэнцыял. Патрэбна ідэя, якая аб'яднала б усе дэмакратычныя рухі на стваральнай аснове. Пакуль жа трыумфуе толькі ідэя процістаяння камуністычнай, а яна вядзе да канфрантацыі, разрывае нацыю знутры. І пакуль яе лепшыя сілы ўцягнуты ў незразумелую народу барацьбу, народ гэты не стане падтрымліваць ні свой парламент, ні свой урад. Станіслаў Шушкевіч заклікаў растлумачыць народу ідэі беларускай дзяржаўнасці, нейтралітэту, перабудовы эканомікі, каб атрымаць яго падтрымку і блаславенне.

У першай палове дня з'езд заслухаў галоўны даклад ад сусветнай беларускай супольнасці "Беларуская ідэя і аднаўленне беларускай дзяржаўнасці", з якім выступіў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, аб эканамічнай сітуацыі ў Беларусі расказаў віцэ-прэм'ер урада Міхаіл Дзямчук, заслуханы і даклад ад заходняй дыяспары, з якім выступіў Янка Запруднік. У праграме другой паловы першага дня работы з'езда — справаздача аб рабоце аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына", вялікі канцэрт лепшых самадзейных і прафесіянальных калектываў рэспублікі. 9 ліпеня пачнецца работа "круглых сталоў" па самых вострых праблемах эканомікі, палітыкі, культуры.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, Белінфарм.**

*Закончыла работу чарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Прыйдзе восень — і ўсіх пamірыць?..

**Павел СТАСЕВІЧ**

Лаўлю сябе на думцы, што ўжо каторы раз у справаздачы з парламента даю загаловак з пытальнікам.

А што зробіш — такое жыццё. Усе мы зараз, будуючы "новае жыццё", вельмі падобныя да дзяцей, якія без канца тузаюць бацьку: што, дзе, як і калі?

Парламент тут не выключэнне, так што чакаць ад яго імгненных адказаў на ўсе балючыя праблемы жыцця наўрад ці трэба.

У спрэчках, узаемных абвінавачваннях і апраўданнях прайшлі і апошнія гадзіны "летняй" сесіі. "Каталізатарам" усяго было, як вядома, пытанне аб далучэнні рэспублікі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы і разуменні абвешчанага імкнення Беларусі да нейтралітэту.

Даставалася і Станіславу Шушкевічу. Нават пасля яго заключнага слова, у якім Старшыня Вярхоўнага Савета імкнуўся расставіць усе кропкі над "і". Прычым "білі" з розных "флангаў": і злева, і справа.

Што ж, сварыцца мы ўсе ўмеем. Але ж калі вядзём "разборку" з жонкамі, то вокны-дзверы стараемся неяк трохі прыкрыць, а тут смачныя эпітэты і ярлыкі "вешалі" адзін на аднаго пры прамой радыётрансляцыі на ўсю дзяржаву...

Не пакаштаваўшы дэпутацкага "хлеба", не магу абвінавачваць у такіх эмоцыях іншых. Але як грамадзянін, выбаршчык і падаткаплацельшчык мушу ўсё ж сказаць: такія парламенцкія "пераборы" людзям ужо даволі надакучылі. На карысць справе яны не ідуць, бо ніхто нікога ў такіх абставінах не чуе. Тым больш што за некаторыя парламенцкія характарыстыкі ў былыя часы можна было б смела выклікаць калегу на дуэль.

Адным словам, трэба неяк нашым абраннікам ад кампраматаў адзін на аднаго ісці да кампрамісаў.

І апошнія ж пры жаданні так хутка шукаюцца! Так здарылася і напрыканцы сесіі, калі прапанова (яе выказалі ў розных варыянтах некалькі дэпутатаў) далучыць пытанне рэферэндуму, ініцыяванае С.Шушкевічам, да тых таксама няпростых праблем, якія паўсталі пры выпрацоўцы новай Канстытуцыі, і спытаць у народа восенню пра ўсё разам — перамагла амаль што без супраціўлення!

Канечне, ці адбудзецца такі рэферэндум — яшчэ пытанне. Тым больш пры такой прававой базе, якая дае розныя варыянты тлумачэнняў вынікаў плебісцыту.

Але ж кампраміс знойдзены і, паўтаруся, вельмі хутка! Навошта ж тады было некалькі дзён кідацца "коп'ямі", трасучы адначасова ўсю рэспубліку?..

Пытанне, як кажуць, рытарычнае. Такі кампраміс і прапанова, на мой погляд, з самага пачатку гарачых дэбатаў ляжалі "на паверхні", дадумацца да іх было зусім няцяжка. І ўсім бакам зрабіць крок назад, да паразумення. Але ж у парламенце перамог "пах крыві", адчуванне таго, што атака на С.Шушкевіча можа (чаго ў нас не бывае!) аказацца паспяховай.

Што з усяго гэтага выйшла — вядома. Заканчваючы гэтую тэму, скажу хіба толькі пра абвінавачванні С.Шушкевіча ў нерашучасці, беспрынцыповасці і г.д. Старшыня Вярхоўнага Савета, канечне, не Бог — памылкі ў яго ёсць. Але ж узровень многіх ваяўніча-крытычных "стрэлаў", якія доўга кідаліся ў яго бок, быў такі, што асабіста мне адразу ўспаміналася вядомая руская прымаўка: "Каждый мнит себя стратегом..." Адна справа быць, што называецца, "вольным" дэпутатам, і зусім іншая — мець пры гэтым "за плячыма" ўсю рэспубліку ды яшчэ пры такім сацыяльна-палітычным раскладзе грамадства, парламента, урада. Калі ў такіх варунках рабіць нейкія мітуслівыя крокі, кідацца з боку ў бок, то можна нарвацца на такія "міны", што потым нешта цэлае ад дзяржавы наўрад ці знойдзеш. Так што — думаць трэба. І не "гнаць коней" праз прорву, калі можна яе перайсці па масту. Хоць гэта не азначае, што спікеру не трэба задумацца. Трэба, і яшчэ як. Калі ты першая асоба дзяржавы, то і дзейнічай адпаведна. Не назірай збоку, як тыя ж "дзяржаўныя мужы" грэюць рукі, скажам, на "прыхватызацыі", а спыні іх, аддай пад суд, калі яны гэтага заслугоўваюць.

Напрыканцы хачу сказаць добрыя словы ў адрас народных дэпутатаў Уладзіміра Новіка і Уладзіміра Цялежнікава. На мой погляд, менавіта іх заклапочаныя выступленні не дазволілі парламентарыям раз'ехацца па хатах, не паставіўшы кропку ў пастанове па грашова-крэдытнай палітыцы Нацыянальнага банка.

А пакідаць са звязанымі рукамі на доўгі час гэтую ўстанову нельга: Расія выводзіць з абароту грашовыя адзінкі "старога образца" і, ёсць такія меркаванні, рыхтуецца да грашовай рэформы.

Адным словам, каб не стаць Беларусі "сметнікам" для "старых" расійскіх грошай і прафесійна весці ў заканадаўчым рэчышчы сваю палітыку, Нацыянальнаму банку патрэбен трывалы падмурак і арыенціры. З гэтым у апошнія хвіліны "летняй" сесіі нашы парламентарыі вызначыліся.

Так што — пакуль што усё. Будзем чакаць восені і спадзявацца, што час астудзіць эмоцыі і зробіць усіх нас трохі разумнейшымі.

